

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны

№ 11 (лістапад), 2013

# Мяжа




**Дзяды ў Берасці**

(Старонка 12)

# ЗЬМЕСТ

# Уладзімір Малей: Суд не знайшоў законных падстаў для звальнення



Трыццаць чатыры мільёны беларускіх рублёў – такую сумму ў Берасці павінна выплаціць Галоўнае спецыялізаванае канструктарскае бюро былому працоўнаму Сяргею Іванову.

Справа была выйграна з дапамогай Незалежнага прафсаюзу работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці. Раённы суд палічыў ягонае звальненне па прычыне хваробы незаконным.

Берасцейскі праваабаронца Уладзімір Малей адзначыў, што ў дадзеным выпадку было парушана працоўнае права:

- Наймальнік парушыў працоўнае права – парадак атэстацыі працоўных месцаў. Спачатку трэба праводзіць атэстацыю працоўнага месца, а затым вызначаць шкодныя ўмовы працы. Атэстацыя гэтых працоўных месцаў праводзілася тады, калі Іваноў ужо не працаваў. І гэта сталася прычынаў для яго аднаўлення на працы.

Сергей Іваноў быў звольнены два гады таму па стану здароўя. Суд палічыў дзеянні адміністрацыі незаконнымі і не знайшоў сапраўдных падстаў для звальнення. Са словаў Уладзіміра Малея, на дадзеным прадпрыемстве гэта ўжо другая па ліку падобная справа.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19410#.UrNOR5BdUvQ*

# Пінскія праваахоўнікі занепакоеныя сітуацыяй са “спайсам”




Праваахоўныя органы Пінска занепакоены сітуацыяй з пашырэннем ужывання наркатычных рэчываў у моладзевым асяродку.

Як адзначаюць у міліцыі, агульная колькасць злачынстваў здзейсненых падлеткамі знізілася, але выклікаюць занепакоенасць так званыя “лёгкія” наркотыкі.

Зніжэнне злачынстваў абумоўлена прагматызмам моладзі, бо яны разумеюць, што біяграфію трэба берагчы, адзначае прэс-сакратар Пінскага ГАУС Юры Куцэвіч:

- Мяняецца культура, мы навёрстваем тое, што ўпусцілі ў 90-ыя гады. Моладзь становіцца ўсё больш свядомай, яны разумеюць, што здзяйсняючы правапарушэнне ў падлеткавым узросце, гэта можа адбіцца на іх будучыні, іх кар’еры. Падлеткі ведаюць, што здзейсніўшы правапарушэнне, яны могуць трапіць у камп'ютарную базу, што можа паўплываць на выбар прафесіі.

Сярод найбольш распаўсюджаных наркатычных рэчываў - гэта “спайс”, які выклікае псіхічнае засмучэнне.

Медыкі адзначаюць, што пры працяглым і рэгулярным ужыванні гэтага наркотыка адбываецца дэградацыя асобы, а наркагандляры кажуць пра яго маладзёнам, як пра самы бяспечны і дазволены ў Еўразвязе.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19559#.UrNOx5BdUvQ*

# Алесь Бяляцкі просіць падтрымаць інтэрнэт-архіў “Вытокі”

Палітзняволены кіраўнік праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі нават у калоніі цікавіцца стварэннем і працай інтэрнэт-

архіву "Вытокі". Да свайго арышту, на волі ён быў адным з ініцыятараў стварэння гэтага праекту.

Пра тое, што цікавасць Бяляцкага да гэтага архіву не знікла, сведчыць ліст ад яго, які атрымала праваабаронца Алена Лапцёнак. Зняволены праваабаронца прачытаў аб дзейнасці інтэрнэт-архіву "Вытокі" у газетах, якія атрымлівае, і заклікае грамадскасць падтрымаць гэты праект.

Алена Лапцёнак:

- Алесь узрадаваны, што ёсць інфармацыя пра «Вытокі», таму што грамадскі віртуальны архіў – гэта супольная ініцыятыва «Вясны», «Дыярыюша», Асамблеі і «Супольнасці». Алесь прыкладаў намаганні, каб гэты вэб-сайт запрацаваў. І ён просіць, каб усе, хто можа, падтрымалі архіў. Цікавіць усё, што датычыць актыўнасці падзеяў і таго, што было вакол іх: лісты, фота, абвесткі, пратаколы, рэзалюцыі, улёткі, самвыдат, успаміны.

Як сказала Алена Лапцёнак, вельмі важна, каб матэрыялы, якія захоўваюцца ў людзей, не губляліся з цягам часу, а траплялі ў гэты архіў.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19651#.UrNPO5BdUvQ*

## Пружанскім міліцыянтам няма чаго рабіць?

Некарэктныя і неправавыя дзеянні 4-х супрацоўнікаў Пружанскага РАУС у адносінах да жыхаркі Пружан Вольгі Вашкевіч прымусілі яе напісаць скаргу ў Берасцейскае абласное ўпраўленне ўнутраных спраў.

Міліцыянтаў цікавіла куча друзу каля яе плота, якую пакінулы жыллёва-камунальныя службы, кажа актывіст кампаніі “Гавары праўду” Валянцін Лазарэнкаў:

- Напэўна старэйшым афіцэрам няма чаго рабіць, як толькі разбірацца і замяняць ЖКГ і дарожныя службы. Быццам у Пружанах няма іншых пытанняў - не п’яніцаў, не дзебашыраў, не крымінальнікаў, не вароў ды іншых правапарушэнняў. А толькі займацца вось гэтай праблематыкай.

Ахоўнікі правапарадку больш за паўгадзіны абражалі жанчыну жэстамі, мімікай, але так і не склалі пратакол. Дайшло нават да цкавання яе маленькага шчанюка. На шчасце Вольгі Вашкевіч, сабачка не адрэагавала на правакацыі.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19656#.UrNPwZBdUvQ*

## Валянцін Стэфановіч спрабуе высветліць, чаму заблакавалі сайт “Вясны”

Хто вырашыў абмежаваць доступ да сайта "Вясны" і ўключыць у спіс забароненых рэсурсаў разам з "Хартыяй-97", "Беларускім партызанам" ды іншымі.

Гэта спрабуе высветліць намеснік старшыні праваабарончага цэнтра Валянцін Стэфановіч.

З гэтай мэтай ён звярнуўся ў Аператыўна-аналітычны цэнтр пры прэзідэнце, а затым ў Беларускую дзяржаўную інспекцыю электрасувязі:

- Таму я і звярнуўся ў ААЦ з гэтым пытаннем. Там мне сказалі, што яны не валодаюць такой інфармацыяй і ААЦ такіх рашэнняў не прымаў, нам параілі звярнуцца ў Беларускую дзяржаўную інспекцыю электрасувязі. Адтуль я атрымаў дзіўны адказ. Па-першае, яны паведамляюць, што нарматыўна прававымі актамі яны не надзелены паўнамоцтвамі па распаўсюду падобнай інфармацыі, яны публічна заяўляюць, што такія і такія сайты абмежаваныя ў доступе, а з іншага боку яны не даюць інфармацыі пра тое, хто гэтыя сайты ўключыў у гэтыя спісы і на якой падставе.

У інспекцыі электрасувязі Валянціну Стэфановічу параілі звярнуцца ў дзяржаўныя органы, якія ўпаўнаважаны прымаць рашэнне пра блакаванне сайта. Але рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання вельмі шмат. Гэта значыць, прапаноўваюць звяртацца ва ўсе органы і шукаць, хто прыняў рашэнне па "Вясне", — адзначае праваабаронца.

- Я падазраю, што сітуацыя выглядае проста, паколькі сайт “Вясны” фармальна не трапляе пад ніякія падставы для

абмежавання, бо судовага прызнання сайта экстрэмісцкім не было, парнаграфічныя матэрыялы мы на сайце не змяшчаем, я не ведаю, якія яшчэ падставы могуць быць, яны ўсе выкладзены ў палажэнні для блакавання сайтаў, таму я падазраю, што гэта проста адвольнае рашэнне, якое проста называецца цэнзура.

Цяпер Валянцін Стэфановіч абскарджвае адказ інспекцыі ў Міністэрстве сувязі. Калі і Міністэрства не дасць адказу на пытанне, хто ўнёс сайт "Вясны" ў спіс забароненых, то праваабаронца плануе спыніць спробы гэта высветліць.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19722#.UrNP85BdUvQ*

## Бярозаўскі райвыканкам павінен патлумачыць

Бярозаўскія праваабаронцы працягваюць змагацца з уладамі за магчымасць праводзіць пікеты і іншыя масавыя мерапрыемствы ў публічных месцах. Яны паўторна звярнуліся ў райвыканкам, каб тыя параілі, якім чынам заключыць дамовы з бальніцай, міліцыяй і жыллёва-камунальнай гаспадаркай, кажа адна з заяўнікаў пікетаў Таццяна Тарасевіч:

- Райвыканкам патрабуе заключыць дамовы, а ў чыноўнікаў іншых арганізацый свае патрабаванні. Яны могуць заключыць дамову толькі пасля таго, як мы атрымаем згоду ў райвыканкаме. Вось мы і просім райвыканкам патлумачыць, як гэта ўсё можна ўзгадніць і зрабіць.

У той час як у Баранавічах, да прыкладу, якія ўсяго за 100 кіламетраў ад Бярозы, у актывістаў няма праблем з заключэннем дамоў з вышэйзгаданымі службамі.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19794#.UrNQDZBdUvQ*

## У Берасці прымусова высяляюць жыхароў дому ў гістарычным цэнтры

У Берасці суд выселіў жыхароў дому, якія там не прапісаныя. Суд Ленінскага раёна горада Берасця прыняў рашэнне па высяленню ў адносінах да ўласнікаў кватэр дому нумар 10 па вуліцы Астроўскага. Аднак, са словаў жыхароў, на якіх была

пададзеная скарга ў суд, яны ў гэтым доме ўжо не прапісаныя - таму прымусовае перасяленне ў сацыяльнае жыллё бессэнсоўнае.

Уласнік адной з кватэраў дома Генадзь Войкаў патлумачыў сутнасць сітуацыі:

- Суд вырашыў задаволіць просьбу гарвыканкаму. На якой падставе? Я, напрыклад, цяпер выпісаны, жыву ў Расеі. Маці прапісалася ў вёсцы, але ўласніка нельга высяліць - хаця я жыву ў іншым месцы, але я не адмовіўся ад сваёй уласнасці. Гэта мая ўласнасць. А дом зносіць не будуць, справа ў тым, што ён гісторыка-культурная каштоўнасць.

Пад выглядам аварыйнасці гарадскія ўлады вырашылі выселіць ягоных жыхароў. У якасці кампенсацыі яны прапанавалі ім перасяліцца ў сацыяльнае жыллё ў мікрараёне Паўднёвым.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19870#.UrNQTpBdUvQ*

## Бярозаўскі раённы суд не задаволіў скаргу грамадскіх актывістаў

Суд Бярозаўскага раёна адмовіў у задавальненні скаргі бярозаўскім праваабаронцам і грамадскім актывістам. Суддзя – Наталля Мінчанка. Актывісты прасілі прызнаць забарону пікету 10 кастрычніка неабгрунтаванай. Дзеля дазволу пікету ўлады патрабуюць заключыць дамовы з міліцыяй, хуткай дапамогай і камунальнікамі, якія павінны абслугоўваць масавае мерапрыемства. Паводле адной з заяўніц пікетаў Таццяны Тарасевіч, названыя службы адмаўляюцца складаць такія дамовы:

- У нас што прыдумаў чыноўнік, тое і будзе. Суд і пракуратура будуць заўсёды на яго баку.

Валянцін Лазарэнкаў, актывіст кампаніі “Гавары праўду!”:

- Дзяржава і яе прадстаўнік – Прэзідэнт – узурпавалі гэтую ўладу. Сёння яго ўказы вышэйшыя за ўсе астатнія, таму і ўлада не карыстаецца законамі.

Аляксандр Кузьмін з Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі:

- Усе паседжанні з грамадзянскімі позвамі з палітычным адценнем у выніку праходзяць па адным сцэнары. Пракуратура падстаўляе плячо выканаўчай уладзе.

Гэта ўжо другі выпадак, калі бярозаўскія праваабаронцы і грамадскія актывісты абскарджваюць у судзе адмову ў правядзенні пікету. Ніводны судовы працэс актывісты не выйгралі.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19859#.UrNQWJBdUvQ*

## У Берасці замежныя тэлеканалы замянілі рускамоўнымі

У Берасці кабельнае тэлебачанне “Эльсат” замяніла тэлеканалы, якія вяшчалі на мовах еўрапейскіх краінаў, на расейскамоўныя, паведаміў праваабаронца **Уладзімір Вялічкін**. Ён лічыць гэта парушэннем яго канстытуцыйных правоў. І запатрабаваў у фірмы вярнуць ранейшыя тэлеканалы.

Дыспетчар “Эльсата” паясніла гэта адсутнасцю рэгістрацыі гэтых тэлеканалаў:

- Пакуль дамовы не будзе з гэтымі тэлеканаламі,ісці яны не будуць. Была праверка. Трэба ўсё гэта прывесці ў адпаведнасць з дакументамі, і толькі тады яны будуць трансляваецца. Кіраўніцтва працуе над гэтым пытаннем. Калі яно вырашыцца, дакладна цяжка сказаць. Магчыма, да снежня.

Уладзімір Вялічкін не верыць, што сітуацыя будзе выпраўлена:

*- Я перакананы, што гэтая замена адбылася не з прычыны таго, што яны незарэгістраваныя, а каб пераарыентаваць свядомасць грамадзян Берасця (а можа і ўсёй Беларусі) ва ўсходнім кірунку.*

Сітуацыя з заменай каналаў узнікла тры тыдні таму. Уладзімір Вялічкін лічыць, што тэлеканалы на замежных мовах было карысна глядзець не толькі інфармацыйна, але і для авалодання гэтымі мовамі.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19897#.UrNQhZBdUvQ*

## Прафсаюз РЭП плануе правесці ў Берасці пікет




Старшыня Берасцейскага абласнога прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Зінаіда Міхнюк падала заяўку на пікет у гарвыканкам.

Разам з заяўкай пададзены і дзве дамовы - з бальніцай і адміністрацыяй парка, дзе запланаваны пікет. З міліцыяй павінен дамаўляцца гарвыканкам, кажа Зінаіда Міхнюк:

- 10-га снежня ўся сусветная супольнасць будзе адзначаць 65-ю гадавіну Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, я падала заяўку на пікет з гэтай нагоды. 15 чалавек будуць стаяць з плакатамі, якія яшчэ раз нагадаюць берасцейцам пра тое, што яны маюць правы, таму трэба, каб гэтыя правы выконваліся.

Пікет пройдзе ў парку воінаў-інтэрнацыяналістаў 10-га снежня з 13-й да 15-й гадзіны.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=20021#.UrNRPZBdUvQ*

## Леанід Дубаносаў гатовы дайсці да міжнароднага суда

Актывіст Беларускага незалежнага прафсаюзу Леанід Дубаносаў паспрабуе спагнаць з прадпрыемства “Граніт” шэсць з паловай мільёнаў рублёў. Суд прызначаны на 3-га снежня. Прычынай для патрабавання маральнай кампенсацыі стала несвоечасовае паведамленне пра непрацягненне працоўнага кантракту. Лунінецкі раённы суд прыняў заяву толькі з другога разу.

Кіраўніцтва адміністрацыі "Граніта" навязвае працоўным думку пра тое, што незалежны прафсаюз працягвае дыскрэдытацыю

прадпрыемства і толькі Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі абараняе правы рабочых.

Старшыня “гранітаўскай” суполкі незалежнага прафсаюзу Алег Стахаевіч не здзіўляецца такім аргументам:

- Псіхалагічны прыём – то бок гэта людзі, якія не прызнаюць сваю віну. Гэты прафсаюз даўно ўжо стаў адміністратыўным, які абараняе інтарэсы толькі наймальніка, а не рабочых. Гэта кволасць бачання, вузкае мышленне, замест таго, каб прапанаваць альтэрнатыву, а альтэрнатыва заўсёды была, 20 гадоў альтэрнатыва існуе ў асобе незалежнага прафсаюза. Як паказвае сусветная практыка, канкурэнцыя заўсёды ідзе толькі на карысць.

Леанід Дубаносаў паралельна працягвае звяртацца ў вышэйшыя судовыя інстанцыі, каб даказаць, што яго звольнілі незаконна і па прафсаюзнай прыналежнасці. Актывіст гатовы дайсці да міжнароднага суда.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=20134#.UrNRUJBdUvQ*

## Звярнуліся з касацыйнай скаргай у Берасцейскі абласны суд



Бярозаўскія праваабаронцы не пагадзіліся з рашэннем суда Бярозаўскага раёна, які стаў на бок райвыканкама ў адмове пікета на 10 кастрычніка, таму звярнуліся з касацыйнай скаргай у Берасцейскі абласны суд, кажа праваабаронца Сяржук Русецкі.

- Звярнуліся з абскарджваннем рашэння Бярозаўскага райвыканкама, які забараніў нам правядзенне пікета, прымеркаванага да сусветнага Дня барацьбы са смяротным пакараннем, на якім мы хацелі выказаць свае адносіны да таго, што

ў нашай краіне, адзінай у Еўропе, ужываецца смяротнае пакаранне, што зусім не адпавядае нашым хрысціянскім традыцыям.

Адмова ў пікеце адбылася па агульнавядомай па ўсёй Беларусі прычыне: непададзены дамовы з міліцыяй, шпіталём і жыллёва-камунальнай гаспадаркай адначасова з заявай на пікет. Выканаць такое рашэнне практычна немагчыма, кажа Сяржук Русецкі.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=20169#.UrNRtJBdUvQ*

## Дзяды ў Берасці



У Берасці адзначылі "Дзяды", а на віртуальнай мапе горада з'явілася яшчэ адно месца памяці продкаў, палеглых у барацьбе за Незалежнасць. Гэтым разам грамадскія актывісты сабраліся ў паўночнай частцы Берасцейскай крэпасці, ля месца, дзе па меркаванні гісторыкаў, знаходзілася шыбеніца, на якой каралі ўдзельнікаў паўстання Кастуся Каліноўскага, расказвае гісторык архітэктруры Ірына Лаўроўская:

- *Гэта адно з найважнейшых святаў, якое будуе нацыю, - гэта стаўленне да сваіх продкаў, да сваёй спадчыны, да ўсяго таго, што нас яднае ў нацыю. Гэта вельмі важна, што нацыя не забываецца пра сваіх продкаў і адзначае гэты дзень.*

Грамада ўсклала кветкі і запаліла знічы ў раёне меркаванай шыбеніцы. Перад тымі хто прыйшоў выступілі Ірына Лаўроўская, краязнаўца Ігар Бараноўскі, грамадскія актывісты Андрэй і Паліна Шарэнды. Агулам у акцыі памяці прыняло ўдзел 10 чалавек.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19385#.UrNa7pBdUvR*

## Берасцейцаў запрашаюць на сустрэчу з Уладзімірам Някляевым

У Берасці адбудзецца сустрэча з былым кандыдатам у прэзідэнты. Мерапрыемства з удзелам Уладзіміра Някляева пройдзе 12 лістапада ў рэдакцыі газеты “Брэсцкі кур’ер”. Арганізатарам выступіў актыў кампаніі “Гавары Праўду!”.

Актывіст кампаніі Ігар Маслоўскі патлумачыў, у чым унікальнасць надыходзячай сустрэчы:

- Гэта будзе ягоная першая паездка пасля сумных падзей 2010 года, пасля разгону Плошчы і арышту, пасля адсідкі і дамашняга арышту. Таму, думаю, берасцейцам будзе прыемна сустрэцца з такім вядомым чалавекам. Хто захоча – той прыйдзе, бо інфармацыі будзе дастаткова.

“Усе прысутныя змогуць задаць пытанні, якія тычацца творчай дзейнасці Уладзіміра Някляева, ягоных планаў, звязаных з будучымі выбарчымі кампаніямі, з кампаніяй “Народны рэферэндум”, - падагульніў грамадскі дзеяч.

Сустрэча пройдзе па адрасе: вуліца 17 верасня 22-24, пачатак мерапрыемства а 18-ай гадзіне.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19504#.UpOhf7VdXgg*

## У Берасці сабралі больш за тысячу подпісаў за аднаўленне дзіцячага гарадка

Раней гарадок знаходзіўся ў мікрараёне Усход, аднак на дадзены момант ён не функцыянуе.

Актывіст кампаніі “Гавары Праўду” Ігар Маслоўскі лічыць акцыю па збору подпісаў паспяховай:

- Людзі ставіліся вельмі станоўча да гэтай акцыі, бо памятаюць, што быў такі гарадок. Была дзіцячая кавярня, куды можна было прыйсці з сям’ёй, адпачыць дзецям і дарослым. Не толькі з гэтага мікрараёна, але і з усяго горада людзі ставілі подпісы, многія тэлефанавалі на офіс, каб запытаць, дзе можна паставіць подпіс.

Маем надзею, што гэтага пасылу мясцовай уладзе хопіць, каб

пачаць аднаўленне дзіцячага гарадка, дадаў палітык.

Подпісы будуць накіраваны ў Берасцейскі гарадскі савет дэпутатаў і Берасцейскі гарадскі выканаўчы камітэт.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19495#.UpOhXbVdXgg*

## У Берасці змагаюцца “За даступнасць адукацыі па месцы жыхарства”

Больш за паўтысячы жыхароў Берасця выступаюць за даступную і якасную адукацыю. Подпісы пад зваротам у Берасцейскі гарадскі выканаўчы камітэт, Берасцейскі гарадскі Савет дэпутатаў і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь былі сабраныя ў рамках кампаніі “За даступнасць адукацыі па месцы жыхарства”.

Кажа старшыня Берасцейскай абласной арганізацыі Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай партыі (Грамада) Ігар Маслоўскі:

- На наш погляд менавіта гэтыя дзяржаўныя ўстановы адказныя за тую сітуацыю, якая зараз склалася ў Берасці. Катастрафічны недахоп установаў адукацыі, у першую чаргу – дзіцячых садкоў. Калі людзі павінны праз увесь горад дзяцей вазіць у дзіцячы садок, каб потым забіраць. Таму мы засяродзілі сваю ўвагу ў нашым горадзе на вырашэнні гэтай праблемы – неабходнасць будаўніцтва ў самы бліжэйшы час дзіцячых садкоў, школ.

Доўгатэрміновая кампанія накіраваная на забеспячэнне шэрагу мікрараёнаў горада дзіцячымі садкамі, а таксама ўстановамі пачатковай і сярэдняй школы.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19614#.UpOhqrVdXgg*

## На Берасцейшчыне завершыўся збор подпісаў за Народны рэферэндум

Сабрана больш за 600 подпісаў грамадзянаў, якія выказаліся за правядзенне рэферэндуму і прапанавалі свае пытанні для разгляду, кажа актывіст кампаніі “Гавары праўду” Валянцін Лазарэнкаў.

- Зараз мы плануе выбраць з прапановаў грамадзянаў найбольш

цікавыя для народа пытанні і зноў прапанаваць ім на сённяшні дзень яшчэ раз выказацца: якія з гэтай дзясяткі, магчыма з пятнаццаці пытанняў, лепш паставіць на рэферэндум першымі пяццю пунктамі.

20 траўня ў Менску Партыя БНФ, Рух «За Свабоду» і кампанія «Гавары праўду» прэзентавалі агульную стратэгію дзеянняў «Народны рэферэндум». Пазней да іх далучылася Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада).

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19612#.UpOhrrVdXgg*

## Фермера з Бярозаўшчыны абавязалі знішчыць усіх сваіх свіней

У гаспадарцы Аляксандра Аліхвера гадуецца 200 свіней. Улады патрабуюць іх знішчыць, паколькі гаспадарка знаходзіцца ў 5-кіламетровай зоне паблізу дзвюх дзяржаўных свінафермаў.

З аднаго боку, улады прызнаюць, што ў раёне няма ўспышкі афрыканскай чумы, з іншага боку - анулявалі даведку на вядзенне дапаможнай гаспадаркі, без якой ні гадаваць, ні прадаваць свіней - нельга, кажа Аляксандр Аліхвер:

- Па-першае, у іх няма грошай. Па-другое, сам факт канфіскацыі ў мяне свіней і кампенсацыі, дае падставы меркаваць, што ўсё, што адбывалася да 29 жніўня, рабілася незаконна. Ім зараз працей са мной цягнуць, свінні перарастаюць, карміць іх трэба, грошы сыходзяць не малыя. Я сказаў: “Ні воднай свінні я адтуль не вывезу, ні воднай свінні не заб’ю, а пасля яшчэ падам на іх у суд за іх дзейнасць ці бяздзейнасць, якая прынесла мне шкоду.

Фермер кажа, што будзе судзіцца не з дзяржавай, а з канкрэтнымі асобамі, датычнымі да гэтай сітуацыі. І не выключае, што гэта стане прыкладам для іншых вяскоўцаў, у якіх знішчылі свіней, як ён лічыць, незаконна.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=19726#.UpOm3bVdXgg*

# Улады знайшлі новы спосаб пазбегнуць правядзення акцый пратэсту

Улады загадзя ствараюць ўмовы для адмовы ў правядзенні грамадскіх мерапрыемстваў. Услед за актывістамі з Баранавічаў з гэтым сутыкнуліся брэсцкія прафсаюзнікі.

Брэсцкае аддзяленне прафсаюза РЭП падало заяўку ў гарвыканкам на арганізацыю пікету 10 снежня ў Дзень абароны правоў чалавека.

Маючы вялікі вопыт адмоваў у правядзенні акцый пратэсту, актывісты імкнуліся дасканала выканаць патрабаванні інструкцыі, згодна з якой пры падачы заяўкі павінны быць заключаны дамовы з установай аховы здароўя, ЖРЭА і міліцыяй.

У Брэсце, як і раней у Баранавічах, заключыць дамовы з бальніцай і ЖРЭА не было складана. А вось міліцыя адмаўляецца, прапаноўваючы спачатку падаць дакументы ў гарвыканкам.

Як распавёў Praca-by.info прававы інспектар прафсаюза РЭП Уладзімір Малей, у міліцыі кажуць, што спачатку павінны атрымаць сігнал ад чыноўнікаў гарвыканкама, а потым заключаць дамову.

- Атрымліваецца замкнёнае кола, - робіць выснову прафсаюзны юрыст. - Мы яшчэ не атрымалі адказ уладаў, але надзеі на дазвол мала. У іх бо зараз ёсць фармальная падстава для адмовы - мы не далі дамову з міліцыяй, і ніхто не будзе прымаць пад увагу, што міліцыя адмовілася, спаслаўшыся на тое, што ім трэба спачатку атрымаць ад гарвыканкаму інфармацыю аб колькасці ўдзельнікаў нашага пікету.

З падобнай сітуацыяй сутыкнуліся ў кастрычніку і актывісты прафсаюза РЭП з Баранавічаў. Рыгор Грык некалькі дзён наведваўся ў міліцыю, беспаспяхова спрабуючы заключыць дамову. У выніку прафсаюзу адмовілі ў правядзенні пікету.

*spring96.org/be/news/67627*

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»